ДРУЖБА ДРУЖБАЙ

## ЧЫЯ БЕРАСЦЕЙШЧЫНА?

Яшчэ не дайшло да стварэння Балтыйска-Чарнаморскага саюза, за які гарой стаяць нашы народнафронтаўцы, а ўжо маем першыя тэрытарыяльныя дамаганні да беларусаў. На Брэстчыне з'явіліся гісторыкі-аматары Мікалай Казлоўскі і Уладзімір Крачко, якія апантаны ідэяй далучэння да Валынскай вобласці Украіны ўсёй паўднёвай часткі Брэстчыны (правабярэжжа Ясельды).

У сваім сепаратызме яны не адзінокія. Нядаўна пад эгідай «Народного руху Берестейщини за перебудову» выйшла ў свет брашура, назва якой гаворыць сама за сябе: «Тысяча років стремління Берестейщини до єдності з Україною». Яна надрукавана ва ўкраінскім горадзе Луцку на ўкраінскай мове, тыраж яе — 2 тысячы экземпляраў, «гуляе» па Брэстчыне.

Аўтары брашуры даводзяць, што менавіта «Берасцейшчына ўжо ў IX—X стагоддзях была ці не старажытнейшай калыскай славянскай мовы». Але, як высвятляецца, што гэта «славянская мова» была ўсяго «палескім дыялектам украінскай мовы». Тым не менш, гаворыцца ў брашуры, у межах Вялікага княства Літоўскага гэтая мова стала афіцыйнай.

Карацей, і М. Казлоўскі з У. Крачко, і «Народны рух Берасцейшчыны за перабудову» жаляцца, што вымушаны жыць «ва ўмовах адарванасці ад нашай зямлі — Украіны» і ставяць пытанне рубам: далучыцца да Валыні!

А як жа наша спрадвечная дружба ўкраінскага і беларускага народаў?

ДАЖЫЛІ

## І ЗНОЎ КАРТКІ

Сістэма набыцця тавараў, аб якой мы ведалі толькі з расказаў пажылых людзей ды з падручнікаў, зноў вярнулася. У горадзе Баранавічы ўведзены гандаль некаторымі відамі прадуктаў па картках. Толькі так тут можна купіць цяпер муку, крупы, макароны, масла ці цыгарэты.

У адрозненне ад талонаў, што існуюць у астатніх гарадах Беларусі, карткі гарантуюць наяўнасць прадуктаў у магазіне, а таксама выключаюць злоўжыванні з боку гандлёвых работнікаў (пакупка адзначаецца ў талоне пакупніка і ў талоне прадаўца). Акрамя таго, усе жыхары горада замацаваны за пэўнымі магазінамі, што, відаць, аблягчае ўлік і кантроль, хаця, безумоўна, і ўскладняе жыццё людзей, якім, магчы было б больш зручна карыстацца зусім іншы азінам.

Улады горада Баранавічы лічаць, што сёння падобная картачная сістэма найбольш прымальная. Праўда, тых, хто згубіць іх, чакаюць сур'ёзныя непрыемнасці: карткі пры страце не ўзнаўляюцца.

«Гэтак жа было ў гады вайны», — з сумам гавораць людзі.

СПАДАРОЖНІКАВАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ



Больш за 40 праграм розных тэлекампаній дазволіць глядзець жыхарам беларускай сталіцы сістэма прыёму спадарожнікавага тэлебачання, распрацаваная інжынерамі-канструктарамі мінскага вытворчага аб'яднання «Гарызонт». Прычым якасць адлюстравання шаснаццаціканальнага прыёмніка зусім не ўступае замежным аналагам. А існуючы канвертэр-пераўтваральнік частот забяспечвае нізкі ўзровень шумоў.

НА ЗДЫМКУ: аўтары распрацоўкі (злева направа) інжынер Павел ЛЕДНІК, начальнік сектара Леанід ЖУКАЎ і вядучы інжынер Анатолій ДУРЭЙКА дэманструюць работу цюнера, састыкаванага з тэлевізарам «Селена».

ДУМКА АФІЦЫЙНАЙ АСОБЫ

## НЯМА ВАРОЖАСЦІ

«Літоўскі парламент і ўрад законныя, мяняць структуру ўлады ў Літве няма ніякай неабходнасці», — заявіў на сустрэчы з групай журналістаў прадстаўнік Прэзідэнта СССР у Літве Георгій Таразевіч. Ён таксама лічыць, што няма прычын для ўвядзення прэзідэнцкага праўлення, да якога вось ужо два тыдні заклікае камітэт нацыянальнага выратавання. Прадстаўнік Прэзідэнта з задавальненнем адзначыў, што кіраўніцтва Літоўскай рэспублікі гатова да дыялога з Масквой.

«Літоўскі народ я ніздрэнна ведаю, таму што нарадзіўся і вырас непадалёку ад Літвы. Ні тады, ні цяпер я не бачыў і не бачу варожасці, а тым больш выпадаў супраць рускіх, — сказаў Г. Таразевіч. — Я цвёрда ўпэўнены, што помсты а тым больш крыві літоўцы не прагнуць». Адказваючы на пытанні, калі будуць вернуты захопленыя ваеннымі будынкі і перш за ўсё Дом друку ў Вільнюсе і тэлевежа, Г. Таразевіч заявіў, што аб гэтым трэба дамаўляцца з Кампартыяй Літвы, якая прэтэндуе на частку маёмасці, а таксама з кіраўніцтвам Дзяржтэлерадыё СССР.

ТРАНСПАРТ СТАЛІЦЫ



Вось такія прыгожыя трамваі (на здымку) чэхаславацкай вытворчасці хутка з'явяцца на вуліцах Мінска. Умяшчальны ўтульны салон, вялікія вокны, што забяспечваюць добры агляд і вадзіцелю, і пасажырам, трое чатырохстворкавых дзвярэй, што складваюцца, — усё гэта забяспечыць зручнасць і камфорт тым, хто карыстаецца такім відам транспарту.

КАНТРАБАНДА

## ШТО ВЯЗУЦЬ В'ЕТНАМЦЫ

У Беларусі працуе нямала в'етнамцаў. Яны прыбылі ў нашу краіну згодна з міжурадавым пагадненнем. Але, на жаль, праслявіліся не працай.

Часам яны скупляюць разнастайныя тавары і перасылаюць іх у В'етнам. Безумоўна, ёсць пэўны пералік вырабаў, якія можна вывозіць з краіны. Але, зразумела, такі тавар, як падшыпнікі ці зліткі медзі, кантрактам не прадугледжаны.

Ёсць такія ахвотнікі да нажывы і ў Гомелі. У выніку толькі аднаго рэйда міліцыі ў в'етнамскіх рабочых забрана больш 12 тысяч штук падшыпнікаў на суму 100 тысяч рублёў, аўтамабільныя свечы запальвання, цвёрдасплаў пласцінкі для рэжучага інструмента, маслаправоды высокага ціску і... зварачны апарат.

Вялікія кантэйнеры, набітыя дэфіцытнымі таварамі, стаяць у дварах дамоў, дзе пражываюць в'етнамскія рабочыя. Грузы ахоўваюць вартавыя з сабакамі, якіх наймаюць гаспадары. І так да адпраўкі рэйсам самалёта ці па чыг...

Кантракт з в'етнамскімі рабочы... ...ключаны на пяць гадоў. Але ўжо сёння ўвесь горад «сыты» такой дапамогай. Ды і няцяжка прыкінуць, у што выльецца яна для абласнога цэнтра, усёй рэспублікі.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

✦ У адзін са студзеньскіх шэрых надвячоркаў жыхары прынёманскай часткі Навагрудчыны ўбачылі, як з-за хмар выкацілася на небасхіл сонца і зазззяла сяміколерная дуга вясёлкі. Старажылы тлумачаць гэту надзвычайную з'яву прыроды ў такую пару цёплым надвор'ем і высокай вільготнасцю паветра.

✦ «Да 16 і старэйшыя» — так назвалі сваю маладзёжную арганізацыю юнакі і дзяўчаты Салігорска. У адрозненне ад камсамола, які ставіць перад сабой мэты інтэрнацыянальнага выхавання моладзі, працы ў імя Радзімы, «Да 16 і старэйшыя» арыентуецца на іншы дэвіз: «Жыць дзеля сябе, дапамагаючы іншым».

✦ Ад актыўнай палітычнай і дзяржаўнай дзейнасці адышоў былы першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Яфрэм Сакалоў. Ён звярнуўся ў Вярхоўны Савет рэспублікі з заявай аб датэрміновым спыненні сваіх дэпутацкіх паўнамоцтваў. Вярхоўны Савет БССР задаволіў просьбу Я. Сакалова.

✦ У Дзяржынску адбыўся вялікі пажар — згарэла сем дамоў. Прычына: узарвалася газаразмеркавальная станцыя. На шчасце, ніхто не загінуў, людскіх ахвяр няма. Але без цяпла і газу засталіся жыхары 334 прыватных дамоў. І гэта тады, калі стаяць траскучыя маразы — пад 30 градусаў па начах.

ГОРАД МАЛАДЗЕЕ



Амаль пяць тысяч малых нарадзілася ў мінулым годзе ў пагранічным Брэсце. Гэта прыкладна на дзесяць працэнтаў больш пазалетышняга. Зрэшты, і без статыстыкі нескладана вызначыць, што расце і маладзее горад: прыкметна прыбавілася на яго вуліцах шчаслівых мам і татаў, якія з гонарам крочаць з дзіцячымі калясакамі (на здымку).

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## «АКУПАЦЫЯ» ТРЫБУНЫ

Колькі іх, беспрэцэдэнтных выпадкаў, ужо было ў нашым парламенце? Відаць, многія да іх нават сталі прывыкаць. Але тое, што здарылася ў першы дзень аднаўленых пасля «грашовага» перапынку пленарных пасяджэнняў трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета БССР, як кажуць, ні ў якія вароты не лезе. І, мяркуючы па ўсім, кропкі над «і» ў гэтай гісторыі трэба будзе расставіць парламенцкай камісіі па этыцы.

...На працягу наступнай гадзіны сесія Вярхоўнага Савета не магла пачаць канструктыўную работу па парадку дня — абмеркаванню законапраекта «Аб прыярытэтным сацыяльна-эканамічным развіцці вёскі і аграпрамысловага комплексу». Парламенцкая трыбуна аказалася «акупіраванай» на доўгі час дэпутатам ад 262 Навагрудскай гарадской выбарчай акругі Галінай Сямдзянавай. Дэпутат адмовілася пакінуць яе да таго часу, пакуль старшынствуючы не дасць ёй слова па парадку дня. Аднак каса найшла на камень.

Частка дэпутатаў ад апазіцыі запатрабавала чарговы раз змяніць парадак дня сесіі ў сувязі з «антыканстытуцыйнымі», «супярэчачымі суверэнітэту рэспублікі» Указам Прэзідэнта СССР «Аб мерах па забеспячэнню барацьбы з эканамічным сабатажам і іншымі злачынствамі ў сферы эканомікі» і пастановай Вярхоўнага Савета СССР «Аб арганізацыі і мерах па забеспячэнню правядзення рэферэндуму СССР па пытанню аб захаванні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік». Некаторыя з іх выказалі і с... абурэнне прынятай 21 студзеня пастановай Прэзід... ма Вярхоўнага Савета БССР аб арганізацыі рэферэндуму ў рэспубліцы, як супярэчачай Канстытуцыі БССР. На іх думку, усе дэталі яго правядзення павінен быў вызначаць увесь дэпутацкі корпус, а не адзін Прэзідыум. Дваццаць дэпутатаў падпісаліся пад заявай даць слова па гэтаму пытанню Г. Сямдзянавай.

Аднак па прапанове намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Васіля Шаладонава большасць парламентарыяў выказалася за тое, каб не мяняць парадак дня і прадоўжыць абмеркаванне законапраекта. Не згадзіўшыся з такім рашэннем, Г. Сямдзянава заняла парламенцкую трыбуну і адмовілася пакінуць яе, нягледзячы на ўсе звароты.

Ніякія ўгаворы не дзейнічалі. 151 дэпутат, па прапанове В. Шаладонава, прагаласаваў за асуджэнне паводзін Г. Сямдзянавай. Намеснік старшыні Камісіі па дэпутацкай этыцы І. Драбышэўская тут жа ў зале запрасіла Г. Сямдзянаву на пасяджэнне камісіі для разбору яе паводзін. Але... дэпутат засталася на трыбуне.

Тлумачачы сітуацыю, Старшыня Вярхоўнага Савета Мікалай Дзямянцей заявіў: нічога, што пярэчыла б Канстытуцыі БССР, у рашэнні Прэзідыума няма. Ён падкрэсліў, што рэферэндум праводзіцца не рэспублікай, а па пастанове Вярхоўнага Савета краіны. В... конваючы яе, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БС... мае права арганізаваць правядзенне народнага галасавання.

Старшыня Камісіі па заканадаўству Дзмітрый Булахаў заявіў, што парушэння Канстытуцыі БССР у даным выпадку ён не бачыць. Прэзідыум выконвае толькі арганізацыйныя функцыі па выкананню закона Саюза ССР. Ён зноў звярнуў увагу на непаважлівыя адносіны да Вярхоўнага Савета з боку Г. Сямдзянавай. Але... яна трыбуну не пакінула.

Старшынствуючы В. Шаладонаў быў вымушаны аб'явіць пачатак сп...чак па абмеркаванню законапраекта ля мікрафона ў зале. Але цяпер яго рашэнне не падтрымала большасць дэпутатаў, якія жадалі выказацца толькі з галоўнай трыбуны рэспублікі. Прыйшлося аб'явіць не прадугледжаны рэгламентам перапынак, пасля якога «акупацыя» нарэшце была знята.

**(З рэпартажу парламенцкага карэспандэнта БЕЛТА).**

## НАВУКА ДЗЕВЯНОСТЫХ





# АКНО Ў СВЕТ

**Наўрад ці некалькі дзесяцігоддзяў назад чалавецтва магло марыць аб персанальных камп'ютэрах, відэамагнітафонах, кам[illegible]т-дысках, вакцынах ад невылечных хвароб... Сёння новыя віды бытавой электронікі, камп'ютэры самага шырокага прызначэння сталі прывычнымі атрыбутамі нашага жыцця. А вучоныя думаюць пра заўтрашні дзень, шукаюць новыя шляхі павышэння хуткасці і надзейнасці апрацоўкі імкліва ўзрастаючых аб'ёмаў інфармацыі.**

**Свой уклад у вырашэнне праблемы ўносяць супрацоўнікі Інстытута электронікі АН БССР. Навуковыя даследаванні ў гэтай галіне ўзначальвае дырэктар інстытута, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, доктар фізіка - матэматычных навук, прафесар, акадэмік АН БССР Уладзімір Піліповіч. Менавіта па яго ініцыятыве былі разгорнуты даследаванні па самых перспектыўных напрамках электронікі, а ў рэспубліцы—створана навуковая школа лазернай фізікі і аптычнай апрацоўкі інфармацыі.**

**Вялікія надзеі беларускія вучоныя звязваюць з сапраўды бязмежнымі магчымасцямі оптыкі. Яе выкарыстанне ўжо неўзабаве дазволіць у сотні і тысячы разоў павялічыць аб'ёмы памяці машын, павысіць хуткасць і надзейнасць апрацоўкі даных. Аднак дасягнуць гэтай мэты немагчыма без стварэння прынцыпова новай элементнай базы для сістэм аптычнай апрацоўкі інфармацыі. Актуальнасць даследаванняў інстытута ў гэтым напрамку—у наяўнасці. Прасторава-часавыя мадулятары святла на сегнетаэлектрычных, вадкакрышталічных і акустааптычных матэрыялах, звышвысокаадчувальныя многаэлементныя фотапрыёмныя структуры, оптаэлектронныя пераўтваральнікі і іншыя канструкцыі ўжо сёння выкарыстоўваюцца ў распрацоўках высокахуткасных аптычных прынтэраў персанальных камп'ютэраў, шэрагу сервісных канструкцый для кіна-фотаапаратуры, перспектыўнай паліграфічнай тэхнікі, высокаадчувальных датчыкаў пераўтваральнікаў інфармацыі рознага функцыянальнага прызначэння. Вялікім попытам [illegible]краіне карыстаецца лічбавы [illegible]авальтаметр, ключавым элементам якога з'яўляецца оптаэлектронны пераўтваральнік, таксама створаны ў лабараторыях інстытута. Па шэрагу характарыстык прыбор перавышае замежныя аналагі.**

**[illegible]ошнія гады ў рамках усеса[illegible]ай праграмы АН СССР па [illegible]арэнню звышвысокапрадукцыйных аптычных вылічальных машын інстытут вядзе распрацоўку хуткадзеючай звышаператыўнай памяці рэцыркуляцыйнага тыпу на святловалакне. І, магчыма, недалёкі той час, калі валакноаптычныя кабелі знойдуць прымяненне не толькі на вытворчасці, але і ў быце, удасканаліўшы нашу тэлефонную і тэлевізійную сувязь і адкрыўшы кожнаму доступ да шырокай інфармацыйнай сеткі, дапамогуць «прарубіць акно» ў вялікі, у многім яшчэ невядомы свет.**

**НА ЗДЫМКАХ: старшы навуковы супрацоўнік кандыдат фізіка-матэматычных навук І. РАМАНАЎ і малодшы н[illegible]овы супрацоўнік Г. КУЗЬМ[illegible] праводзяць спектраметрычныя даследаванні ўзораў электрахромных асяроддзяў у лабараторыі аптычных метадаў апрацоўкі інфармацыі; дырэктар Інстытута электронікі АН БССР, лаўрэат Дзяржаў[illegible] прэміі СССР акадэмік АН [illegible]Р Уладзімір ПІЛІПОВІЧ.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

## ПАТОМНЫ СЕЛЯНІН ВЯРТАЕЦЦА ДА ЗЯМЛІ

# *ПАКУЛЬ НЕ ХАПАЕ ВЕДАЎ*

Нядаўна прыняты «Кодэкс Беларускай ССР аб зямлі» абвяшчае: «Кожны грамадзянін Беларускай ССР мае права на зямельны ўчастак...» А значыць, у заканадаўчым парадку ўзяты курс на развіццё фермерства, арэндных адносін у сельскай гаспадарцы, іншых відаў прадпрымальніцтва на зямлі. Але аднаго імкнення мала, неабходны яшчэ і веды, якіх часта не хапае. Праўда, перадумовы для вырашэння гэтай праблемы ўжо ствараюцца.

Навучэнец Мар'інагорскага саўгаса-тэхнікума Уладзімір Драгун яшчэ толькі ўступае ў самастойнае жыццё, але дастаткова выразна разумее, чаго ад яго хоча. Патомны беларускі селянін, ён бачыць сваё прызванне ў працягу сямейнай традыцыі, аднак сістэма калгаса яго яўна не задавальняе. Усе тут вымушаны падладжвацца пад стандартныя патрабаванні, лайдак часцяком хаваецца за спіну працаўніка. У такім выпадку лепш узяць зямлю і самастойна яе апрацоўваць, вырошчваючы 3—4 культуры. Больш будзе прадукцыі і лепшай якасці.

А для гэтага патрэбны веды і па аграноміі, і па тэхналогіі апрацоўкі глебы, і па догляду раслін. Трэба ведаць сельскагаспадарчую тэхніку, прычым не толькі тое, як яна працуе, але і якую можа даць аддачу на ўкладзены рубель. Значыць, трэба ведаць азы эканомікі і шмат чаго яшчэ. У калгасе па ўсіх гэтых напрамках ёсць «вузкія» спецыялісты, у фермерскай жа гаспадарцы іх функцыі павінен выконваць, як правіла, адзін чалавек. Таму і пайшоў Уладзімір крыху больш як год назад на толькі што арганізаванае тады аддзяленне тэхнікума, дзе рыхтуюць будучых фермераў, арандатараў, кіраўнікоў падрадных звенняў, гэта значыць тых, хто вырашыў самастойна весці справу на зямлі.

— Жадаючых аказалася больш, чым чакалі, але мы ўзялі ўсіх,— расказвае дырэктар Мар'інагорскага саўгаса-тэхнікума Валянцін Свірыдаў.— Усяго сфарміравалі чатыры групы па 25 чалавек. У асноўным гэта талковыя хлопцы і дзяўчаты, якія імкнуцца да самастойнай працы. Усе маюць закончаную сярэднюю адукацыю (такая адна з умоў прыёму на гэтае аддзяленне) і праз два гады і 8 месяцаў навучання атрымаюць дыпломы. Веды яны будуць мець сапраўды універсальныя: і па ветэрынарыі, і па аграноміі, і па тэхніцы. Акрамя таго, яны атрымаюць дакументы на права кіраваць трактарам і аўтамабілем. Але галоўнае, імкнёмся прышчапіць моладзі ўменне мысліць эканамічнымі катэгорыямі. І хаця многія хлопцы, відаць, стануць «прыватнікамі», навучанне вядзецца за дзяржаўны кошт і нават выплачваюцца стыпендыі.

Мар'інагорскі саўгас-тэхнікум не адзінокі ў сваім імкненні даць моладзі веды, неабходныя для пачатку самастойнай работы. У рэспубліканскім аб'яднанні тэхнікумаў і саўгасаў-тэхнікумаў ёсць яшчэ некалькі падобных навучальных устаноў, так што не трэба ехаць далёка ад роднага дому. Тут своечасова ўлавілі змяненне попыту на кадры і скарацілі ў 1990 годзе прыём на дзве тысячы чалавек па спецыяльнасцях, якія не маюць перспектывы. Затое адкрыта падрыхтоўка па апісанаму вышэй тыпу. Для гэтага распрацаваны новыя вучэбныя планы і праграмы, змест якіх можна змяняць у кожным канкрэтным выпадку ў залежнасці ад запатрабаванняў навучэнцаў. Прычым па кожнай прафесіі прадугледжана атрыманне мінімум 2—3 рабочых спецыяльнасцей. Гэтыя праграмы адрэцэнзаваны вядучымі спецыялістамі сельскай гаспадаркі з пункту гледжання адпаведнасці іх патрабаванням навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Напрыклад, у Навагрудскім саўгасе-тэхнікуме ў гэтым годзе адбудзецца першы ў СССР выпуск 60 аграрнікаў па спецыяльнасці «Арганізацыя і тэхналогія вытворчасці прадукцыі сельскай гаспадаркі». Прычым, як ні па якой іншай спецыяльнасці, навучэнцы атрымаюць многа практычных ведаў — на гэта адведзена 58 вучэбных тыдняў. Пабывалі будучыя фермеры з Беларусі на практыцы ў сельскагаспадарчых кааператывах суседняй Польшчы.

У далейшым для тых, хто мяркуе заняцца раслінаводствам, будзе выдзелены ў вучэбных мэтах зямельны ўчастак з поўным севазваротам і наборам усіх сельскагаспадарчых культур, што вырошчваюцца ў Беларусі. Аналагічная магчымасць замацаваць на практыцы атрыманыя веды ёсць і ў будучых гаспадароў жывёлагадоўчых ферм.

А што рабіць тым, хто ўжо набыў свой кавалак зямлі? Тут ужо, як вядома, на доўгую вучобу часу не стане. У такім выпадку дапаможа Беларускі завочны сельскагаспадарчы тэхнікум, дзе таксама адкрыта спецыяльнае аддзяленне для фермераў і арандатараў. Размешчаны ён у гарадскім пасёлку Смілавічы. А пры рэспубліканскім навучальным цэнтры Дзяржкамсельгаспрода БССР пачалі вучобу кіраўнікі сялянскіх гаспадарак. Каб адолець праграму за два месяцы, давядзецца займацца па дзесяць гадзін у дзень. Аднак земляробы ахвотна ідуць на гэта, спадзеючыся атрымаць добрую аддачу ад атрыманых ведаў на хлебнай ніве.

**У. БІБІКАЎ.**

## ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

Паважаныя супрацоўнікі «Голасу Радзімы»!

Амаль пяць гадоў назад над маёй роднай вёскай Калыбань, што на Брагіншчыне, пранёсся смерч Чарнобыля... З таго чорнага верасвнёўскага дня лёс раскідаў маіх землякоў па ўсёй краіне. Адны з іх былі адразу працаўладкаваны, забяспечаны жыллём і іншым, другім, як напрыклад мне з братам, давялося змагацца ў самым прамым і пераносным сэнсе гэтага слова з «усесаюзнай бюракратыяй». Без эвакаўнакіравання, нягледзячы на ўсе дакументы, запытанні па месцу пражывання, звяртанні да Прэзідэнта СССР М. Гарбачова, М. Рыжкова, М. Слюнькова, у Палітбюро ЦК КПСС, да ўрадаў БССР і УССР, аблвыканкомаў Гомельскага і Запарожскага, з'ездаў народных дэпутатаў, цэнтральных, рэспубліканскіх і мясцовых газет, мы з'яўляліся ледзь не самазванцамі. Ваша газета прыняла сардэчны і шчыры ўдзел у лёсе ўсяго двух братоў, двух чалавек з вялікага патоку сарваных з наседжаных месцаў і, як потым здарылася з намі, нікому непатрэбных, паставіла кропку ў гэтай валакіце. Днямі з Гомельскага аблвыканкома нам прыйшло эваканакіраванне. Дзякуючы вашай дапамозе, нам больш не давядзецца зняважаць свой гонар, слухаць і цярпець хлусню адказных чыноўнікаў і інш. Праз вашу газету хочам сказаць вялікае дзякуй карэспандэнту Галіне Уліцёнак і ўсім, хто дапамог нам. Творчых і асабістых поспехаў вам, дарагія нашы таварышы, дарагія землякі!

**Віктар САВЯНОК.**

г. Тапман,
Запарожская вобласць.

## ЗАМЕЖЖА НАМ ДАПАМОЖА?

У сумеснага савецка-амерыканскага прадпрыемства «Дыялог» мэта адна — аказанне дапамогі людзям, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.

Дырэктар Магілёўскага філіяла СП «Дыялог», кандыдат тэхнічных навук Рыгор Лішанскі расказвае:

— Заснавальнікамі СП з савецкага боку з'яўляюцца вылічальны цэнтр Акадэміі навук СССР, Інстытут касмічных даследаванняў і Эканоміка-матэматычны інстытут АН СССР, навукова-вытворчае аб'яднанне КАМАЗ, а з амерыканскага—такія фірмы, як Холет-Пакерт, Рэке-Ксеракс, СРТІ.

Радыяцыі найбольш падвержаны сістэмы жыццезабеспячэння чалавека і перш за ўсё кровазвароту. Намі сумесна з НДІ кардыялогіі Міністэрства аховы здароўя БССР распрацавана унікальная ў сваім родзе сістэма «Імпекард-Д», з дапамогай якой можна імгненна атрымаць аператыўныя даныя аб стане сістэмы кровазвароту чалавека. Яна ж арыентуе ўрачоў на вялізную дыягностыку і кантроль за лячэннем.

Дыягнастычная сістэма «Імпекард-Д» сёння функцыяніруе ў Магілёўскай абласной і гарадской бальніцах, у Магілёўскім фізкультурным і абласным кардыялагічным дыспансерах, у Слаўгарадскай раённай бальніцы, і ў бліжэйшы час ёю будуць аснашчаны яшчэ некалькі раённых бальніц вобласці.

Гэтай сістэмай зацікавіўся шэраг замежных фірм, у тым ліку і шведскія кампаніі. Адна з іх — Скайнрок выказала гатоўнасць прыняць удзел у будаўніцтве добраўпарадкаванага жылля для перасяленцаў з «забруджаных» раёнаў.

**Пётр МІНАЕЎ.**

# АД «ПОЛАЦАКА» ДА «АРАЎ-ПАРКУ»

Такім чынам, новым беларускім эмігрантам давялося распачынаць сваё жыццё на пустым месцы, у той час як прадстаўнікі іншых народаў (рускія, украінцы, балгары, палякі, сербы, чэхі і інш.) знайшлі тут свае цэрквы і створаныя папярэднікамі грамадска-культурныя арганізацыі.

Пазбаўленыя староннім дапамогі і падтрымкі, без матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў, беларусы, тым не менш, не ўпалі ў адчай, а ўзяліся за работу. Перш-наперш было вырашана пабудаваць царкву, якая ва ўмовах эміграцыі з'яўляецца не толькі чыста духоўнай, культавай установай, а і кансалідуючым сацыяльна-культурным асяродкам.

Ініцыятыўная група, якую ўзначаліў Барыс Плескачэўскі, склікала ў канцы 1950 года з'езд праваслаўных беларусаў Саўт-Рывера і суседніх гарадоў. На з'ездзе быў абраны царкоўны камітэт, куды ўвайшлі Уладзімір Брылеўскі, Святаслаў Коўш, Міхась Сенька, Расціслаў Завістовіч, Віктар Літаровіч і Хведар Высоцкі... На жаль, не ўсе з гэтых людзей дажылі да нашых дзён, але менавіта яны разам са светаром Мікалаем Лапіцкім закладвалі асновы беларускай грамады ў Саўт-Рыверы...

Тады ж з'езд прыняў рашэнне аб стварэнні ў Саўт-Рыверы Беларускай Праваслаўнай Царквы імя Ефрасінні Полацкай пад духоўнай апекай і юрысдыкцыяй Сусветнага Канстанцінопальскага Патрыярха. Пры гэтым з'езд кіраваўся традыцыяй Усяленскай Праваслаўнай Царквы, паводле якой кожная нацыянальная група, што ў выніку тых ці іншых абставін апынецца паза межамі сваёй Бацькаўшчыны на тэрыторыі, дзе няма мясцовай аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, павінна падлягаць Канстанцінопальскай Патрыярхіі.

У Нью-Йорк на імя архіепіскапа Міхаіла, Экзарха Канстанцінопальскай Патрыярхіі ў Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы, было накіравана адпаведнае прашэнне. Архіепіскап Міхаіл благаславіў ініцыятыву саўт-рыверскіх беларусаў, прыняў іх у сваю юрысдыкцыю і, відаць, ведаючы гаротнае матэрыяльнае становішча сваіх новых падапечных, вызваліў іх ад платы епархіяльных падаткаў.

Працэдурныя пытанні на гэтым і завяршыліся. Але шлях да мэты яшчэ быў далёкі. Доўга давялося беларусам арандаваць, выкарыстоўваць чужыя цэрквы, прыстасоўваючы іх да патрэб праваслаўных набажэнстваў, і толькі ў 1967 годзе быў куплены пляц у 3,5 акра зямлі недалёка ад Саўт-Уайтхэд авеню, дзе і пачалося ў хуткім часе будаўніцтва свайго праваслаўнага храма і грамадска-культурнага цэнтра.

(Заканчэнне. Пачатак у № 2—5).

Асноўную частку будаўнічых работ, якімі кіраваў Віталь Цярпіцкі, нашы суайчыннікі выканалі самі, стаўшы на нейкі час мулярамі, цеслярамі, тынкоўшчыкамі. А Алег Махнюк сам стварыў іканастас, мазаічную ікону Ефрасінні Полацкай і нават зрабіў на ўласным панадворку купал, які потым кранам быў пастаўлены на царкоўны мур. Праца ішла дружна і спорна. Да будоўлі меў дачыненне па сутнасці кожны мясцовы беларус. Калі не сваім мазалём, то грашовымі ахвяраваннямі...

Вядома ж, такая руплівасць і самаадданасць не маглі не прынесці свайго плёну, і ўлетку 1972 года абедзве культавыя пабудовы былі гатовы для ўрачыстага высвячэння. Гэты абрад з благаслаўлення архіепіскапа Якаваса, Экзарха Канстанцінопальскай Патрыярхіі выканаў епіскап Філатэас сумесна з айцом протапрэсвітэрам Мікалаем Лапіцкім і іншымі светарамі... Запаветная мара беларусаў стала явай...

Вось такая ў самых агульных абрысах гісторыя беларускай суполкі ў Саўт-Рыверы, якую мне расказалі яе непасрэдныя ўдзельнікі і жывыя сведкі Міхась Сенька, Леў Высоцкі, Ігар Шчорс, Міхась Бахар, Віталь Цярпіцкі, Жорж Наумчык...

Карані[illegible] людзей на Стаўбцоўшчы[illegible], ці Стаўпеччыне, як кажуць яны самі. За доўгія дзесяцігоддзі не згасла ў іх душах любоў да роднай зямлі, з якой яны ніколі не рвалі сувязяў. Я ведаю, што і цяпер яны заклапочаны т[illegible] каб дапамагчы сваім [illegible]кам у адбудове царквы ў Новым Свержані...

Мне прыемна было адчуваць, з якой гордасцю за здзейсненую справу паказвалі саўт-рыверскія беларусы манументальны велічны будынак сваёй царквы, парафіяльную школу, залу культурнага цэнтра, бібліятэку, друкарню, дзе выдаюцца творы тутэйшых беларускіх пісьменнікаў і часопіс «Беларуская думка»...

Па ўсім было відаць, што беларуская грамада ў Саўт-Рыверы моцна стаіць на нагах, а тыя цяжкасці, з якімі давялося сутыкнуцца на пачатку 50-х гадоў, засталіся толькі ў памяці ветэранаў, такіх, напрыклад, як дзевяностачатырохгадовы Аляксандр Банкет...



Араў-парк. Зала, дзе адбываюцца ўсе мерапрыемствы.
Фота А. АБРАМЧЫКА.

«Якія праблемы ёсць у беларускай эміграцыі ў ЗША?» — гэтае пытанне шмат разоў задаваў і тут у Саўт-Рыверы, і ў Кліўлендзе, і ў Чыкага член нашай дэлегацыі радыёжурналіст Сяргей Булацкі. А ў адказ найчасцей чулася: «Праблемы?.. Якія праблемы?.. Няма ў нас ніякіх праблем. Іх, выбачайце, трэба шукаць на вашым баку... Вось, напрыклад, вы ўстанавілі настолькі высокія падаткі на нашы пасылкі да вас, што часам губляецца сам сэнс іх адпраўляць... Вы марудзіце з афармленнем выязных папер для нашых сваякоў... У вас цяжкавата з білетамі на самалёт да нас...» І, відаць, нічога не застаецца, як прызнаць справядлівасць гэтых адказаў-папрокаў...

Але ці такое ўжо бязвоблачнае і бесклапотнае жыццё амерыканскіх беларусаў?

Не ведаю, магчыма я памыляюся (і гэта было б вельмі добра), але ў мяне склалася ўражанне, што беларускім суполкам розных рэгіёнаў ЗША крыху бракуе адзінства і ўзаемападтрымкі... Ёсць разыходжанні ў палітычных поглядах беларусаў. Адны цвёрда стаяць на платформе БНР, другія падтрымліваюць БЦР, трэція падзяляюць абедзьве канцэпцыі, чацвёртыя іх адмаўляюць, пятыя аддаюць свае сімпатыі БНФ «Адраджэнне»...

Нават рэлігія, якая спрадвеку яднала людзей, у нашым выпадку, здаецца, не спраўляецца з гэтай функцыяй. Сёння беларускае хрысціянства ў ЗША прадстаўлена трыма адгалінаваннямі: Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная царква, Беларуская Праваслаўная царква пад юрысдыкцыяй Канстанцінопальскай Патрыярхіі і Беларуская Незалежная царква, якая, па словах яе кіраўніка епіскапа Рыжага, «адказная толькі перад самім беларускім народам». Дадайце да гэтага беларусаў-уніятаў, беларусаў-католікаў, і вы зразумееце ўсю калейдаскапічнасць канфесіянальнага жыцця нашых суайчыннікаў у ЗША...

Як і чаму так сталася? У якой ступені гэта перашкаджае агульнай справе? Не так проста адказаць на гэтыя пытанні... Ва ўсякім разе мне...

Але працягнем нашу экскурсію па беларускаму селішчу ў Саўт-Рыверы.

У будынку грамадска-культурнага цэнтра рэгулярна наладжваюцца мастацкія выстаўкі Беларускага Культурна-Мастацкага і Навуковага Таварыства, дае канцэрты жаночы хор «Каліна», выступае царкоўны хор. Тут адзначаюцца нацыянальныя святы, праходзяць парафіяльныя і грамадскія сходы, чытаюцца лекцыі, праводзяцца вечары, вяселлі, хрэсьбіны і г. д. Залу цэнтра ахвотна арандуюць гарадскія ўстановы і прыватныя асобы. У гэтай зале адбылася і ўрачыстая імпрэза з нагоды нашага прыезду.

Ад імя саўт-рыверскай беларускай грамады нас сардэчна вітала расчуленая, усхваляваная Ірэна Цупрык. Слова ў адказ узяў намеснік старшыні таварыства «Радзіма» Уладзімір Навіцкі, які падзякаваў гаспадарам за цёплы прыём, выказаў спадзяванне на больш актыўнае і плённае развіццё кантактаў Беларусі з яе дочкамі і сынамі ў Амерыцы і ўручыў кіраўнікам цэнтра памятныя падарункі. А затым перапоўненая зала ўзрывалася апладысментамі і замірала ў трапяткой цішыні, смяялася і плакала ад выступлення ансамбля «Жывіца». Сустрэча са сваёй музыкай, з роднай песняй, ды ў такім высокапрафесійным выкананні, здаецца, не пакінула абыякавымі нікога ў той вечар... Званчэй чым звычайна, гучалі цымбалы Вольгі Строк і Ані Лікінай, адмыслова выводзілі свае партыі дудары Аляксандр Цыбулька і Пятро Каваленка, сама спявала скрыпка ў руках Валодзі Каштальяна і Алега Паўлі, не стрымаць было баяністаў Сашу Балотніка і Хведара Паўлаўца, у такт патрапляў ім бубен Аляксея Хрыпава, не пазнаць было Валю Карэлікаву з яе лірай і ўдарнымі інструментамі, ну, а Валя Пархоменка і Алесь Казак проста зачаравалі слухачоў сваімі песнямі...

...Далёка за поўнач зацягнулася наша задушэўная гутарка ў доме Ірэны Цупрык і Льва Высоцкага. Зноў і зноў прасілі гаспадары Валю Карэлікаву паспяваць, зноў і зноў сыпаліся пытанні пра Беларусь, пра агульных знаёмых...

А на наступны дзень мы завіталі ў вядомы славянскі цэнтр «Араў-парк», дзе нас з нецярпеннем чакалі старшыня Савета дырэктароў «Араў-парку» Маня Сімак і яе верныя сябры Вера і Мікалай Гетманы, Алекс Карачун, Іван Сідараў, Аляксей Парчук...

«Араў-парк»... Гэты унікальны куточак славяншчыны на амерыканскай зямлі ведаюць і шануюць тысячы нашых суайчыннікаў. Для беларуса «Араў парк» асабліва дарагі тым, шт тут поруч з манументамі Аляксандру Пушкіну, Тарасу Шаўчэнку і Уолту Уітмену велічна стаіць помнік нашаму песняру Янку Купалу.

Не так даўно «Араў-парк» адзначыў саракагадовы юбілей. Тут нараджаліся і паспяхова ажыццяўляліся дзесяткі культурных праектаў, праграм і дабрачынных ініцыятыў. Вось і цяпер, як расказала мне старшыня камітэта газеты «Русский голас» Вера Гетман, сябры «Араў-парку» актыўна займаюцца зборам сродкаў для дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Гэтая гуманістычная акцыя, вядома ж, высока будзе ацэнена на Радзіме...

Вось так у пераездах, сустрэчах і ростанях праляцеў цэлы месяц нашага знаходжання ў Злучаных Штатах Амерыкі. Месяц, які шмат адкрыў для разумення жыцця і побыту нашых братоў і сясцёр на далёкай амерыканскай зямлі, шмат даў для ўзаемнага знаёмства і збліжэння... І гэта — як добрая надзея, што беларусы Бацькаўшчыны і замежжа знойдуць у рэшце рэшт тую пуцявіну, што вядзе да згоды, узаемаразумення і адзінства. Ад гэтага — я перакананы — выйграюць абодва бакі...

**Леанід КАЗЫРА.**

# ЯК ПЕРААДОЛЕЦЬ СТРЭСЫ ЧАРНОБЫЛЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

...хаднасці, любая інфармацыя аб магчымым уздзеянні радыяцыі «прымяраецца да сябе», не заўважаныя раней недамаганні скоўваюць ініцыятыву, нараджаюць недаверлівасць, падазронасць да спецыялістаў, якія прыязджаюць у забруджаныя раёны, і абвінавачванні ўсіх прадстаўнікоў улады незалежна ад іх аб'ектыўнай ролі ў ліквідацыі вынікаў аварыі.

Разнастайная гама рэакцый, якія адзначаюцца (посттраўматычных стрэсавых расстройстваў), сведчыць аб значным пагаршэнні якасці псіхічнага здароўя. Параўнанне распаўсюджанасці розных форм псіхічных рэакцый у раёнах, дзе Чарнобыль пакінуў свой след, і на не пацярпеўшых ад аварыі тэрыторыях, паказала: клінічна выяўленыя псіхічныя парушэнні (псіхасаматычныя хваробы і неўрозы) у забруджаных раёнах рэгіструюцца ў два разы часцей.

Натуральна, для высвятлення сувязі радыяцыі з характарам псіхічных рэакцый неабходна вывучаць захворванне ў раёнах з рознай ступенню забруджанасці. Супрацоўнікі Цэнтра абследавалі тры населеныя пункты Магілёўскай вобласці з забруджанасцю 15 кюры на квадратны кіламетр і тры пункты — менш за 5 кюры на квадратны кіламетр. Адрозненняў захворванняў не выяўлена. Гэтае надзвычай важнае папярэдняе заключэнне патрабуе далейшага ўдакладнення. Аднак са значнай доляй упэўненасці можна меркаваць: **малыя дозы радыяцыі ўздзейнічаюць на арганізм не непасрэдна, а праз эмацыянальны стрэс.** Разам з тым даследаванні паказалі, што распаўсюджанасць неадэкватных псіхічных рэакцый неаднолькавая сярод розных груп насельніцтва. Найбольш уразлівая група — сельская інтэлігенцыя (настаўнікі, урачы, служачыя), дзе колькасць такіх рэакцый на 50 працэнтаў большая, чым у людзей, якія заняты сельскагаспадарчай вытворчасцю і маюць найбольшы кантакт з радыяцыйным забруджваннем.

Атрыманыя даныя прыводзяць да адназначнага вываду: неабходны тэрміновыя меры змянення псіхалагічнага становішча. Як яго змяніць? Паколькі фактарам, які пастаянна падтрымлівае напружанне, з'яўляецца так званы кагнітыўны дысананс, гэта значыць недавер'е да атрымліваемай інфармацыі, відавочна неабходнасць паступлення яе з тых крыніц, якія карыстаюцца давер'ем, — ад незалежных міжнародных арганізацый. Гэтак жа відавочна, што кожны жыхар забруджаных раёнаў павінен мець дазіметрычныя прыборы індывідуальнага карыстання, ведаць «накопленую» ім дозу радыяцыі і мець магчымасць у любы момант змераць чысціню прадуктаў харчавання, розных прадметаў, што акружаюць яго. Гэта базісныя меры. Але адначасова псіхіятры і псіхолагі рэкамендуюць ствараць медыка-псіхалагічныя службы, арганізоўваць ва ўсіх стацыянарах, раённых бальніцах і паліклініках псіхатэрапеўтычныя ці псіхасаматычныя кабінеты. Тут, вядома, узнікае праблема абучэння і павышэння кваліфікацыі ўрачоў. Існуючая сістэма падрыхтоўкі кадраў не дае сур'ёзных ведаў аб спецыфіцы псіхасаматычных праяў і існуючых магчымасцях аказання дапамогі. А іх нямала: гэта і вялікая гама псіхатэрапеўтычных метадаў, кагнітыўнай псіхатэрапіі і нейралінгвістычнае праграмаванне, псіхааналіз. Цэнтр пагранічнай псіхіятрыі ўжо пачаў абучэнне ўрачоў-псіхатэрапеўтаў метадам дапамогі людзям з неадэкватнымі рэакцыямі на стрэс, у прыватнасці, праведзены месячны цыкл для ўрачоў Беларусі. Аднак, на жаль, так склаўся лёс савецкай псіхіятрыі, што ў нас нямногія спецыялісты валодаюць найноўшымі псіхатэрапеўтычнымі методыкамі. Таму савецкія ўрачы з удзячнасцю прынялі прапановы замежных калег аб стажыроўцы ў заходніх клініках.

Медыка-псіхалагічныя вынікі радыяцыйнага ўздзеяння — праблема новая. Для канцэнтрацыі намаганняў пры яе вывучэнні нядаўна адкрыта спецыяльная лабароторыя пры кафедры псіхіятрыі Мінскага медыцынскага інстытута. Сумесна з Цэнтрам пагранічнай псіхіятрыі яе супрацоўнікі будуць таксама арганізоўваць спецыялізаваную дапамогу ў пацярпеўшых раёнах.

**Галіна РУМЯНЦАВА,**
**доктар медыцынскіх навук.**

